Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 18 (1210) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 6 МАЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.

БЕЛАРУСКАЕ ЧЫТАЛЬНІЦТВА

# ЦІ НЕЛЬГА ЛЕПШ?

У Беластоцкім ваяводстве публічныя бібліятэкі, у якіх ёсць кнігі на беларускай мове, дзейнічаюць у чатырох раёнах: Бельск Падляшскі, Гайнаўка, Саколка і Сямяцічы. Яны ўлічваюць культурныя запатрабаванні беларусаў, што жывуць у нашым ваяводстве. Апрача гарадскіх і гмінных бібліятэк, у гэтых раёнах у канцы 1978 года працавалі 492 бібліятэчныя пункты, у тым ліку 268 у беларускім асяроддзі. У параўнанні з 1975 г. лік бібліятэчных пунктаў на гэтым абшары павялічыўся на 89, але з беларускай літаратурай — зменшыўся на 11 пунктаў. У кнігазборах было 736 834 кнігі, у тым ліку літаратуры на беларускай мове 19 499 кніг, гэта значыць 10 193 кнігі для дарослых чытачоў і 7 192 кнігі для дзяцей і моладзі. Колькасць кніг у канцы 1978 г. у параўнанні з 1975 г. павялічылася на 134 770 тамоў, у тым ліку на беларускай мове — на 2 400 тамоў. У 1978 г. у сакольскім і сямяціцкім раёнах бібліятэкі і бібліятэчныя пункты не набылі ніводнай кнігі на беларускай мове. І так, не кажучы ўжо пра імпартныя выданні з Беларускай ССР, у гэтыя бібліятэкі не трапілі нават выданні Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Гэта сведчыць аб тым, што бібліятэкі, арганізацыі БГКТ і адказныя працаўнікі не праявілі ў гэтай справе ніякага зацікаўлення.

Такая малая колькасць кніг на беларускай мове і амаль поўная адсутнасць у іх новых паступленняў адмоўна ўздзейнічае на чытальніцтва. У канцы 1978 г. у гэтых раёнах было 66 695 чытачоў, сярод іх зацікаўленых беларускай літаратурай — 3 148, у бібліятэчных пунктах — 1 765 чытачоў. У параўнанні з 1975 годам наступіла павелічэнне колькасці чытачоў на 20 162 асобы, у тым жа часе колькасць чытачоў беларускай літаратуры зменшылася на 556 чалавек, у тым ліку ў бібліятэчных пунктах на 201 асобу.

Падобна выглядае справа з пазычаннем кніг у бібліятэках. У 1978 г. чытачы пазычылі 1 394 727 кніг, на беларускай мове ўсяго 16 127 кніг, у тым ліку ў бібліятэчных пунктах — 8 884 кнігі. У параўнанні з 1975 г. наступіла павелічэнне пазычанняў на 407 451 кнігу, а беларускіх кніг зменшылася на 315, у тым ліку ў бібліятэчных пунктах на 17 кніг.

На развіццё чытальніцтва, яго абсяг і актыўнасць маюць рашаючы ўплыў кніжныя фонды бібліятэк, іх сістэматычнае папаўненне навінкамі, а таксама формы і метады працы з чытачамі. Ваяводская публічная бібліятэка разам з Галоўным праўленнем БГКТ і „Нівай“

(Працяг на стар. 5)

ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

# УЛАСНАЯ ВІЗІЯ СВЕТУ



Ва ўсіх пакоях невялікай кватэры **Анатоля Корзуна** ў Гайнаўцы кожная сцяна, сценка, вугал, паліцы, палічкі проста ўгінаюцца ад безлічы кніг, багацейшых збораў старадаўніх ікон са светлымі лікамі святых на счарнелых ад часу і нягод тоўстых дошках, дзесяткаў арыгінальнейшых тульскіх самавараў, падсвечнікаў, лямпаў, вырабаў народнага кавальства. Ну і карцін, што выйшлі з-пад пэндзля самога А. Корзуна. Стаім мы перад адной з іх. Спрабую я, з запінкамі ў голасе, раскрыць змест прадстаўленай на ёй навалы ці то цяжарных навальніцаю хмараў, ці то грозных пачварных з'яваў, з якіх тхне праніклівым холадам. Пытаю яе аўтара, як узнікла задума гэтага насычанага чалавечым жахам твора.

— Вы, пэўна, бачылі ранняй вясною або позняй восенню, калі ўся зямля лекаціць, голая, ад прамозглага, студзёнага ветру, наша неба. На ім перавальваецца гэткая здань. Што яна прынясе дрыготнай зямельцы: ці цёплы жыццядайны дождж, ці халодную снежную завіруху — ніхто не згадае. І гэтае чаканне, гэты настрой напружанасці мяне натхніў.

І не толькі ў гэтым творы выявілася замілаванне мастака да свайго, роднага. Паходзіць ён з вёскі Арэшкава, палеткі якой упіраюцца канцамі ў самую Белавежскую пушчу. Там прайшло яго дзяцінства і ладны кавалак юнацтва, бо пасля арэшкаўскай пачатковай школы законччыў ён Гайнаўскі беларускі ліцэй. І вядома: усе канікулы і кожны вольны ад заняткаў дзень разам з бацькамі і малодшым братам „тупаў“ каля гаспадаркі, пасвіў дабытак на пушчанскіх палянах, касіў і сушыў сена над пушчанскімі рачулкамі. Вельмі рана запаланіла яго сэрца прыгажосць тутэйшай зямелькі. І гэта знайшло пацверджанне ў тым, што пасля заканчэння ліцэя ён паступае на аддзяленне малюнку і тэхнічнага выхавання Лодзінскай настаўніцкай студыі, дзе, як сам ён кажа: „Наш выкладчык жывапісу Генрых Бліх пазнаёміў мяне з асновамі выяўленчага мастацтва“. З дыпломам кваліфікаванага настаўніка А. Корзун вярнуўся ў 1960 г. у свой ліцэй і з галавой акунуўся ў педагагічную працу: вучыў, выхоўваў, разам з моладдзю ў грамадскім пачыне абсталёўваў у ім вядомыя ва ўсёй школьнай акрузе кабінеты беларускай і польскай моваў, гісторыі, геаграфіі, матэматыкі, аздобіў калідоры, арганізаваў сталую „Галерэю дзіцячага малюнку“ і ў выніку страшэнна цесны і старусенькі ліцэйскі будынак набыў воблік праўдзівай сядзібы навукі і мастацтва. Так! Сярод выхаванкаў А. Корзуна, між іншым, знаходзім Мікалая Давідзюка — узыходзячую зорку сучаснага польскага жывапісу і графікі, які працуе асістэнтам у Лодзінскай вышэйшай мастацкай школе, яго працы дэманстраваліся на выстаўках у Лодзі, Вроцлаве, Варшаве, Лазанне. А. Корзун вучыў мастака-графіка Анну Шыла, жывапісца Янку Салавянюка і іншых.

Пошукі самога сябе як мастака А. Корзун пачаў ад рэалістычных, экспрэсійных пейзажаў, акварэляў, графікі. Але тыя працы, як ён сам заўважае, „разышліся па людзях“. У 1969 г. у Беластоку ён паказаў некалькі дзесяткаў сваіх замалёвак з Ленінграда і гэты факт, бадай, лічыць ён сам пачаткам уласнай мастацкай біяграфіі, бо не абмінае яго ў інфарматарах. Зараз жа ў наступным годзе ў Беластоку адбыліся выстаўкі малюнку і графікі, а таксама жывапісу. Але ўсё гэта яшчэ не было тое, чаго ён патрабаваў ад самога сябе. Пошукі уласнай дарогі прыводзяць яго на... завочнае аддзяленне факультэта мастацтва Таруньскага універсітэта. Там ён чэрпае поўнымі жменямі ад сваіх прафесараў С. Барысоўскага, С. Касцялецкага і іншых. Піша пад кірункам дац. С. Ка-

(Працяг на стар. 4)

# УДУМЛІВА І ПРАЦАВІТА

Пасяджэнне пленума Галоўнага праўлення БГКТ, што адбылося 19 красавіка бягучага года ў Беластоку, было прысвечана: 1. Абмеркаванню працы гурткоў БГКТ і акрэсленню заданняў у далейшай іх дзейнасці; 2. Разгляду і прыняццю пастановы аб напрамках дзейнасці БГКТ у выяўленні, збіранні, захаванні і папулярызацыі розных відаў народнай творчасці беларусаў, праўдзіваючых у Народнай Польшчы; 3. Справаздачы аб ажыццяўленні пастаноў VIII з'езду БГКТ.

Пленум адкрыў і вёў старшыня ГП БГКТ **Мікалай Самоцік.**

У дакладзе аб працы гурткоў БГКТ М. Самоцік падкрэсліў, што дзейнасць гэтых асноўных звенняў была заўсёды ў цэнтры ўвагі нашай арганізацыі. Цяпер маем 180 гурткоў, у якія ўваходзіць каля 5700 членаў. У канцы мінулага года ў іх пачалася справаздачная кампанія, яна яшчэ працягваецца. У яе выніку ажыўляецца дзейнасць гурткоў, уводзяцца новыя формы працы, абуджаюцца да актыўнейшай працы слабейшыя гурткі, парадкуюцца справы членскіх складчын, дакументацыя і г.д. Адначасова выявілася, што шэраг нашых гурткоў з-за выезду моладзі ў горад фактычна перастала існаваць, старэйшыя ж члены БГКТ патрабуюць новых форм дзейнасці, якія адпавядаюць іх узросту і зацікаўленням. Неабходна, каб у нашыя гурткі ўваходзілі самыя актыўныя ў грамадскай і культурнай дзейнасці людзі данай мясцовасці і да іх належала рашаючае слова ў гурткоўскай працы. У нас добра развіваецца аматарскі мастацкі рух, удала праходзяць фэстыны, чытальніцкія конкурсы, агляды „Беларуская песня“ і „Беларускі тэатр“, нядрэнна працуюць клубы БГКТ у Беластоку, Бельску, Варшаве, Гайнаўцы, Гданьску, вялікі ўклад у нашу працу ўносіць „Ніва“. Неабходна далей расшыраць і паглыбляць усе гэтыя формы нашай дзейнасці. У сувязі з 35-годдзем Народнай Польшчы гурткі павінны стаць ініцыятарамі

(Працяг на стар. 4)



У нашым аб'ектыве. Вядомы акцёр Войцех Семён сярод „Бельскіх зязюль“. Фота Я. Целушэцкага.

## NEIL DIAMOND



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

Заказваў Юрка Трачук.




Дарагое Сэрцайка, мне 24 гады. Амаль пяць гадоў хадзіла я з Ёзікам. Вельмі кахала яго. Не ўяўляла сабе будучыні без яго і многа разоў гаварылі мы аб жаніцьбе. І ўрэшце на восень мінулага года вызначылі тэрмін шлюбу. Але зусім неспадзявана Ёзік мусіў выехаць на паўгода ў камандзіроўку. Калі вярнуўся, я адразу пазнала, што нешта не так. Не быў ужо да мяне такі мілы, стаў нейкі афіцыяльны. Урэшце перастаў мяне наведваць. Маё сэрца чула, што трачу яго. І неўзабаве я даведалася, што Ёзік мае іншую дзяўчыну. Я страшна перажывала. Але прайшло некалькі месяцаў, і я пазнаёмілася з Олькам. Ён старэйшы за мяне на шэсць гадоў. Вельмі спадабаўся маім бацькам. Ён не такі прыгожы, як Ёзік, але спакойны, мілы, ветлівы, адным словам чалавек, які даецца любіць. Ён запрапанаваў, каб я выйшла за яго замуж. Я аднак сказала, што яшчэ мы так мала ходзім, што пакуль што аб гэтым не будзем гаварыць. Ён аднак стаяў на сваім, матывуючы, што ён ужо старэйшы і пара жаніцца. А маё сэрца яшчэ перапоўнена горыччу па страце Ёзіка. Усё здаецца, што можа ён яшчэ вярнуцца. Але бацькі таксама хацелі б, каб я за Олька выйшла. **А што ты, Сэрцайка, мне параіш, выходзіць за Олька, ці яшчэ пачакаць, можа вернецца Ёзік?**

Геня з Беласточчыны

Геня! Мне здаецца, што дарэмна чакаць табе Ёзіка. Ён жа мае ўжо іншую дзяўчыну. Пэўна, ты ўжо перастала яго цікавіць. Надта доўга вы хадзілі. А з практыкі вядома, што тыя, што так доўга ходзяць, рэдка жэняцца. Што датычыць Олька, дык пішаш, што з характару ён табе падабаецца. Гэта справа найважнейшая. Так што і наконт вяселля можна сур'ёзна падумаць.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Цэлую ноч я плакала, а плакала таму, што мая дачка памерла. Так мне прысніласся. Але па чарзе.

Ішлі мы з дачкою па вуліцы. Аднекуль выбег вельмі вялікі сабака і пачаў бегчы да нас. Я схавалася ў аўтобусе, а дачка мая пабегла далей. Сабака дагнаў яе і загрыз. Дачку ўбачыла я ў хаце, дзе яна ляжала, побач — яе ўнутранасці як бы ў мяшку. Мая дачка памірала, а я вельмі плакала. І тут раптам бачу, што з дачкі нешта вылазіць. Яна ўзяла ручкаю (зрабілася дачка вельмі малой) і выцягнула зайца або кроліка, пасля чаго памерла. Я плачу і ўсім знаёмым гавару, што няма ўжо маёй дочанькі. А на рабоце сказала мне мая супрацоўніца, што трэба змяніць цану „Нівы" з 1 зл. да паўтара, бо будзе некралог (які дорага каштуе) і за яго трэба звярнуць грошы. Я вельмі гэтым была здзіўлена і не магла зразумець, што можна так адносіцца да кагось, каго спаткала такое няшчасце.

Валя

**Валя!** Пільнуй сваю дачку! Ёсць у яе нейкі непрыяцель (той сабака, што накінуўся на дачку тваю і загрыз яе). І чакае яе нейкая небяспека, але з гэтай небяспекі выйдзе яна, як кажуць, абаронней рукой. Аб гэтым сведчыць той заяц, якога яна выцягнула (а можа гэта быць нават нейкі прыбытак ці знаходка, бо ты ж не была ўпэўнена, ці гэта заяц, ці кролік). Ты, бадай, ёй у гэтым памажаш, бо ўсю ж ноч ува сне плакала.

**Астрон**

Куток практычных ведаў



# МОДНЫ СІЛУЭТ



Модны сілуэт напамінае сёння 50-я гады. Характэрныя для яго пашыраныя плечы і адзначаная талія. Не абазначае гэта аднак, што ўсе жанчыны, нягледзячы на свой узрост і фігуру, павінны адразу апрануцца на адзін капыл. Сапраўды добры густ дыктуе зусім што іншае. Трэба проста ў нейкай ступені прыняць модныя акцэнты, дастасоўваючы іх да сваёй, не заўсёды ж ідэальнай фігуры.

Вось звярніце ўвагу на нашы здымкі. На адным з іх вы бачыце пажылую жанчыну ў сукенцы. Гэта сукенка модная, элегантная, а адначасова скромная і спакойная. Плечы ў ёй пашыраны пры дапамозе рукава кімано, у таліі — уцягнуты ў матэрыял паясок. Дадае павабнасці далікатны шалічак, завязаны на шыі. У такой сукенцы можна пайсці і ў бюро, і на прошаную вячэру.

Маладзейшая жанчына на нашым здымку апранута ў спаднічку з блузачкай. У блузцы — модны маленькі каўнерык. Спаднічка з закладкамі і на гузічках збоку. Сёння вельмі моднымі з'яўляюцца дадаткі. Галоўная вопратка можа быць вельмі скромнай (вось хаця б гэта наша спаднічка і блузка), а модны капялюшык з пяром і сумкакніжка прыдаюць жаночай постаці шыкарны выгляд.

**Сяброўка**





## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




Доктар Родэ вярнуўся ў Кенігсберг, Кульжэнка засталася ў Шверынаў у якасці хавальніка твораў мастацтва.

У сярэдзіне лютага 1945 года ў Дзікаў прыехаў батальён СС-вафен. Начальнік батальёна ў званні штурмбанфюрэра, мяркуючы па ўсім, быў чалавекам, які многа бачыў на сваім вяку. Ён пачаў з азнаямлення з радавым маёнткам фон Шверынаў. Пры гэтым яго асаблівa цікавілі каштоўныя рэчы, а таксама тое, што знаходзілася ў кладоўках і склепах. Не абышоў ён увагай і скрыні, што стаялі ў гасцінных.

Кульжэнка, якая суправаджала афіцэра, паведаміла яму, што гэта экспанаты Кенігсбергскага музея, перавезеныя сюды па распараджэнню гаўляйтэра Коха.

— Я вызваляю вас ад аховы экспанатаў. Яшчэ сёння ўсё цывільнае насельніцтва пакіне маёнтак, — лаканічна растлумачыў афіцэр.

Вечарам эсэсаўцы наладзілі пышны банкет. Са склепаў былі прынесены бутэлькі са старым віном, смажылася птушка. Замак зіхацеў агнямі, за вярсту былі чутны песні п'яных салдат.

Пад раніцу завыла сірэна. Штурмбанфюрэр, які не працвярэзіўся пасля начной папойкі, выскачыў у двор, думаючы, што наступае непрыяцель. Аказалася аднак, што гарыць замак. Напэўна, хтосьці з салдат неасцярожна абыйшоўся з агнём. Амаль суткі не сціхаў пажар у дзікаўскім палацы.

*

Старшы лейтэнант Андрэй Чаркасаў, схаваўшыся за елкай, назіраў за дзікаўскім замкам, за яго абгарэлымі сценамі. У двары бегалі салдаты. Пад сценамі будынка стаялі танкі.

Рота Чаркасава праследуючы ворага, адарвалася ад сваіх і апынулася далёка за лініяй фронту. Праўда, тут наогул цяжка было гаварыць аб лініі фронту: яна праходзіла ўсюды і нідзе.

Пяты дзень ужо рота блукала па гэтым бязлюддзі сярод азёраў і лясоў. Некалькі разоў салдаты натыкаліся на апусцелыя, быццам вымерлыя вёскі. Раніцай 18 лютага над лесам успыхнула зарыва. Гэта гарэў дзікаўскі палац. Яны нячутна падкраліся да пабудоў, і вось цяпер Чаркасаў у думках узважаў, ці ўдасца ім адолець сваімі невялікімі сіламі добра ўзброенага непрыяцеля.

Ля палаца, што дагараў, стаяла некалькі афіцэраў. Нечакана да аднаго з іх падбег салдат; паказваючы на парк, ён штосьці ўсхвалявана гаварыў. Чаркасаў вылаяўся. Няма сумнення, што іх заўважылі. Пачуліся свісткі і словы каманды.

З прыбудоў высыпалі салдаты, заракаталі маторы танкаў. Выйсця не было, нічога не заставалася, як прыняць бой.

Бітва за Дзікаў працягвалася тры дні. Руіны палаца пераходзілі з рук у рукі. Абодва бакі панеслі цяжкія страты. Немцы разумелі безнадзейнасць свайго становішча. Рускія ў любую хвіліну маглі падцягнуць падмацаванне. Яны перайшлі ў контрнаступленне. Больш шасць салдат загінула, некаторым удалося прарвацца, а пяцярых узялі ў палон салдаты старшага лейтэнанта Чаркасава.

Вечарам да маёнтка пацягнуліся рускія, палякі, чэхі, сербы, усе тыя, хто дачакаўся свабоды. Сярод іх больш за ўсё было савецкіх грамадзян. Са слязьмі на вачах яны сустракалі сваіх вызваліцеляў. Паліна Кульжэнка з'явілася толькі на другі дзень вечарам і адразу ж звярнулася да старшага лейтэнанта Чаркасава з просьбай выслухаць яе.

— У падзямеллях палаца знаходзяцца каштоўныя творы мастацтва, якія мы павінны выратаваць, — паведаміла яна тонам гераіні.

Старшы лейтэнант Чаркасаў быў вельмі заклапочаны такім ходам справы. Ён гаварыў, што сюды могуць вярнуцца немцы, і тады творы загінуць. Тлумачыў, што салдаты ледзь трымаюцца на нагах, што шмат забітых і што яны нічога не разумеюць у абыходжанні з каштоўнымі экспанатамі.

Кульжэнка працягвала настойваць, і праз некалькі дзён салдаты, без асаблівай аховы, узяліся за работу, а Чаркасаў тут жа адправіў радыёграму ў штаб, каб паведамілі ў Маскву і прыслалі далейшыя ўказанні.

На наступны дзень яны дакапаліся да падземнага калідора. Аказалася, аднак, што ў некаторых месцах падзямелле засыпана. Расчысціўшы некалькі метраў, яны натыкнуліся на вузкі праход, які ўпіраўся ў масіўныя дзверы. Пайшлі ў ход кіркі, дзверы паддаліся. Яны ўвайшлі ў кальцавы лабірынт. Тут, у паўзаваленых калідорах, Кульжэнка канчаткова страціла арыенцір. Да таго ж, на вялікую радасць салдат у склепе стаяла некалькі дубовых бочак, з

# ТРЫБУНА чытачоў

### НАРАДА ПТТКоўцаў

У другой палавіне сакавіка г.г. у Белавежы адбылася падрыхтоўчая нарада сакратароў бюро і праўленняў аддзелаў ПТТК з Беластоцкага, Белападляшскага, Люблінскага, Ломжынскага, Астралэнцкага, Радомскага, Сядлецкага, Сувальскага і Варшаўскага ваяводстваў. Наладзілі яе Галоўнае праўленне ПТТК у Варшаве і Ваяводскае праўленне ПТТК у Беластоку.

У пленарнай частцы нарады чыталіся даклады, у якіх гаварылася аб метадах і формах працы з гурткамі і клубамі ПТТК, метадах кіравання ў грамадскіх арганізацыях, аб пастаці сучаснага турыста і актуальных задачах ПТТК. У рабочай (працавала 6 праблемных груп) частцы вядучымі тэмамі былі — арганізаванне гурткоў і клубаў ПТТК, планаванне працы ў гуртках, методыка мерапрыемстваў, аспекты праблемнай і арганізацыйнай працы праўленняў аддзелаў, а таксама гаспадарчая дзейнасць аддзелаў і яе сувязі з праграмай.

У нарадзе прымала ўдзел каля 150 чалавек. Апрача звычайных занятках, арганізатары нарады падрыхтавалі для яе ўдзельнікаў выезд у лес, спалучаны з традыцыйным турысцкім кастром, наведванне аб'ектаў Белавежскага нацыянальнага парку і даклад з дэманстрацыяй каляровых дыяпазітываў аб чатырох порах года ў Белавежскай пушчы, які чытаў мясцовы лясніч Яцэк Высмулэк.

**П. Байко**

### РАДА КЛУБА

У крываціцкай святліцы ёсць клуб „Рух". Пры клубе працуе рада клуба. Яе заданне — памагаць кіраўніку клуба ў арганізаванні культурна-асветнай працы. Справа ў тым, што члены не надта выконваюць свае абавязкі. Ніхто не звяртае ўвагі на тое, каб павышаць культурную дзейнасць, каб шукаць новых, цікавейшых форм дзейнасці. Адзін толькі Мікалай Суліма памагае арганізаваць нешта, ды пераважна патанцоўкі. А ў канцы зімы па яго ініцыятыве ад сялян быў сабраны вугаль і дровы на атапліванне печкі ў клубе.

**Іван Кірызюк**

### МАЮ ГОНАР...

Рашыў я напісаць пра адну справу. Думаў пра яе ўжо даўно, а цяпер толькі пішу ды, як кажуць, лепш позна, чым ніколі. Датычыць гэта майго выезду ў Беласток на з'езд карэспандэнтаў. Вяртаўся ўжо дамоў поездам, і так склалася, што разам са мною ехаў інж. Б. Ф. Рудкоўскін з Бельска. Ён таксама быў на з'ездзе. Гэта вельмі скромны чалавек, а які вучоны! Колькі я і іншыя пасажыры ў вагоне даведаліся новага ад яго пра філасофію, пра нашу Беласточчыну! Усе мы слухалі гэтага чалавека з вялікім хваляваннем і ўсё разумелі. І таму я вельмі рады, што ў рады нашых карэспандэнтаў упісаўся такі чалавек. Маю гонар пахваліцца гэтым.

**М. Панфілюк**

якіх, калі іх краталі, чулася прыемнае для салдацкага вуха бульканне. Паліцы ламаліся ад бутэлек з вінамі і налівкамі. Работу давялося перапыніць.

На наступны дзень салдаты добраахвотна згадзіліся працягваць пошукі. Расчысцілі яшчэ адзін праход. У гэтай частцы падвал быў вельмі разбураны. У адным месцы рухнула перакрыццё. Цэгла, кавалкі тынкоўкі і бетону, абломкі паркету, абгарэлыя бэлькі — усё гэта ляжала ў адной кучы. Нечакана салдаты наткнуліся на нейкія абгарэлыя скрыні. У іх ляжалі абгуленыя іконы. Кульжэнка сама толкам не ведала, былі гэта калекцыі графаў фон Шверынаў або экспанаты, прывезеныя доктарам Родэ.

Вечарам іх чакаў сюрпрыз. Прыбыў, нарэшце, полк старшага лейтэнанта Чаркасава. Камандзір і некалькі афіцэраў замкнуліся ў пакоі са старшым лейтэнантам Чаркасавым. Потым выклікалі Кульжэнка. Яна ўвайшла смела, усміхаючыся, упэўненая ў тым, што цяпер яе будуць засыпаць словамі ўдзячнасці.

— Спадзяюся, вы прыехалі за нашымі музейнымі экспанатамі, — запытала яна і дадала: — Мы ўжо заняліся імі, тое-сёе ўдалося адкапаць.

Адзін з прыбыўшых зірнуў на яе і сказаў:

— Мы з органаў дзяржбяспекі. Вы арыштаваны за здраду Радзіме.

*(Працяг будзе).*

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### ПРАДАВЕЦ ГОДА

Намеснік прэзаса ГС у Нарве паінфармаваў, што прадаўцом года 1978 у іх стаў Станіслаў Французкавяк. Сваю працу прадаўца распачаў ён некалькі гадоў таму назад і спраўляецца на сваёй пасадзе вельмі добра. Да людзей ветлівы. Крама ў яго ў належным парадку. А прадае ён жалезныя тавары і розныя прылады для сельскай гаспадаркі. Цяпер дайшлі яшчэ тавары цэнтральнага ацяплення і каналізацыі. Крама Станіслава Французкавяка змяшчаецца на вуліцы Бельскай каля магазінаў масавых тавараў. А ГС у Нарве сардэчна ўсіх запрашае ў краму свайго першага прадаўца.

### І ІНШЫЯ ТАКСАМА

Ужо больш як 20 гадоў прыкладна працуюць магазінеры ГС у Нарве: Юзэф Паскробка на пункце скупкі воўны і ільну, Тадэуш Катовіч на пункце скупкі шкур і злому і Пётр Вярбіцкі на пункце скупкі збожжа. Вялікі кавалак саліднай працы. І людзям гэтым належыцца шчырая падзяка.

**М. Лук'янюк**

## Найлепшы работнік і сябра

Гэта мерапрыемства прыдумала рада прафсаюзаў чыгуначнікаў вагоннага дэпо ў Чаромсе. У канцы мінулага года быў аб'яўлены конкурс-плебісцыт сярод усіх працаўнікоў прадпрыемства пад назвай „Найлепшы работнік і сябра". Кожны ад сябе падаваў на картачцы свайго кандыдата і кідаў яе ў спецыяльную скрынку. Пасля быў падлік галасоў. І вось маем лаўрэатаў. Гэта яны: Станіслаў Левандоўскі, Мікалай Леўчук, Янка Шульжык, Віктар Сідарук, Ірэна Санкевіч, Ул. Балтрамюк, Хведар Манцюк, Алесь Андрасюк і Ул. Шліфарскі. Кожны з іх атрымаў ад рады прафсаюзаў грашовую (500 зл.) і рэчавую (да 400 зл.) узнагароды, а таксама ганаровыя граматы і пахвальныя лісты, якія былі запісаны ў персанальныя акты кожнага працаўніка.

Гэта навіна была ўведзена ўпершыню. У мінулым годзе (датычыла 1977 г.) кандыдатаў прадстаўляў калектыў прадстаўнікоў: кіраўніцтва прадпрыемства, рады прафсаюзаў і партыйнай арганізацыі. Рабочыя не мелі голасу. Зараз, як бачым, зусім па-другому была вырашана справа. І вельмі слушна. Рашаючы голас меў увесь калектыў, а не некалькі асоб. Хацелася б, каб такія конкурсы адбываліся не толькі на адным чыгуначным прадпрыемстве, але ва ўсіх службах нашай дырэкцыі (г. зн. ЦДОКП Варшава).

**Ул. Сідарук**

Запіскі натураліста

### ЯШЧЭ НЕ ЧУВАЦЬ ЖАВАРАНКА

Першая дэкада красавіка. Пачатак вегетацыі. Адышла марозная і снежная зіма. Поле Бельск-Пранявічы. Раслінкі рапса — слабаватыя. Вымерзлі. Садзейнічаюць гэтаму азотныя ўгнаенні ўвосень. Фосфарныя ж ды калійныя — наадварот — спрыяюць захаванню. Усюды мокра. У нізінах бліскучыць вада. Профіль глебы — з норамі мышэй, кратоў ды дажджавікоў (мал. 1).

Хімікаты вынішчаюць біясферу глебы: фауну і мікраарганізмы — крыніцу ўраджайнасці. Гліністыя слаі паглынаюць хімікаты, абяскоджваюць іх дзеянне. Пясчаныя глебы не маюць іхнагеалагічнай гліністай аховы, таму ўсё жывое атручваецца.

Над гліняным выкапам не чуваць жаваранка. Яшчэ не прыляцеў, а можа загінуў у чужых краінах?..

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскін**




### ГАСПАДАРЫ СА СТАРАБЕРАЗОВА

Вёска Стараберазова ляжыць ля чыгуначнага шляху з Гайнаўкі ў Бельск, у 10 кіламетрах ад Гайнаўкі. На палях вёскі была праведзена дрэнацыя, і ўраджай з году ў год павышаецца. У вёсцы жыве каля 150 сем'яў. 10 гаспадароў вядуць спецыялістычныя гаспадаркі.

Сам солтыс вёскі Бяляўскі Ян — узорны гаспадар і вядзе спецыялізацыю ў вырошчванні ільну і бульбы. Трашчотка Іван спецыялізуецца ў гадоўлі вархлякаў. І гаспадарку вядуць удваіх з сынам. Ім гэта аплочваецца і здаюць у год СКРу 150 штук. Іншыя спецыялісты таксама не адстаюць.

Як узнагароду за добрыя дасягненні ў сельскай гаспадарцы, праўленне гміны ў Гайнаўцы рашыла, што адкупіць ад аднаго селяніна дом і прызначыць яго на святліцу для вёскі, што і было зроблена ў мінулым годзе. У гэтым годзе гміна ўжо перадала той дом ГСу. Там будзе зроблен рамонт і адкрыецца клуб селяніна. Урачыстасць плануецца на 22 ліпеня.

**Э. Вайсковіч**

### НОВЫЯ КВАТЭРЫ

Адной з першачарговых спраў Чаромхі з'яўляецца праблема жылых кватэр для сем'яў чыгуначнікаў. І хоць добра развіваецца ўласнае будаўніцтва, аднак многа яшчэ ёсць патрэб на кватэры.

Мясцовыя ўлады і чыгуначныя ўстановы стараюцца, каб штогод хоць у пэўнай ступені выканаць гэтае заданне. І дзякуючы цэнтральным уладам ПКП гэта ўдаецца. Вось, напрыклад, у пачатку мінулага года быў аддадзены ў карыстанне чыгуначнікам два блокі з 15-цю кватэрамі. У бліжэйшы час плануецца пабудова наступных. Як бачым, дзяржаўная чыгунка клапоціцца пра сваіх працаўнікоў.

**(ус)**

### ЯК МОЖНА ПЕРАКРУЧВАЦЬ?

Часта сустракаемся са з'явай перакручвання назваў, але смешна, калі ў сур'ёзнай установе гэткае здараецца. А вось прыклад на гэта. Па шашы з Гайнаўкі ў Бельск ёсць прыпынак ПКП з пачакальняй, на якой ужо вельмі даўно вялікімі літарамі напісалі: „Stary Berezów".

Прыпынак знаходзіцца непадалёку ад вёскі Старое Беразова і ад яе ўзяў сваю назву. Гэта ўсё добра. Толькі каму ў галаву стрэліла так дзівачна змяніць назву? Павінна ж быць напісана „Stare Berezowo", як усюды.

Трэба неадкладна змяніць назву на ўласцівую, каб праезджых шафёраў і кандуктараў не ўводзіць у зман.

**Чытач**

### ПРАЎДА, ШТО БАЛАГАН

У „Газеце Всполчэснай" пісалі пра балаган на гайнаўскім прыпынку ПКС. Я поўнасцю згодны з тым, што там напісана і хачу яшчэ пашырыць інфармацыю. У аўторак 3 красавіка я прыехаў аўтобусам а 6 гадзіне ў Гайнаўку. Далей мне трэба было службова дабрацца ў Нараўку. Найбліжэйшы аўтобус — а $6^{30}$. Чакаю. Білетаў не прадаюць, хоць пры касе напісана, што яна адкрыта ад $4^{30}$. Іду да дзяжурнага руху, але і тут усё наглуха закрыта. Каго спытаць? Нідзе ніякай паперкі з надпісам, што рабіцца, ніякай інфармацыі. Навошта будавалі каштоўную радыёстанцыю, калі ніхто не абслугоўвае?

Прыехаў з Беластока аўтобус з больш чым гадзінным спазненнем. Але да апошняй хвіліны ніхто пра гэта не ведаў. А на заканчэнне хочацца ведаць чалавеку, чым жа занята кіраўніцтва ПКС у Гайнаўцы? Чаму яно не выконвае сваіх абавязкаў?

**Асот**

## Машыны на палях

З кожным годам лягчэй гаспадару апрацоўваць сваю гаспадарку. На дапамогу яму ідзе вялікімі крокамі механізацыя. У Гайнаўскай гміне ёсць 260 трактараў з поўным саставам машын: касілкі, жняяркі, малацілкі, капалкі і 15 збожжавых камбайнаў.

100 трактараў мае спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў і сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня. 160 трактараў маюць індывідуальныя гаспадары. Першынство ў куплі трактара маюць гаспадары, якія вядуць спецыялістычныя гаспадаркі. Тыя гаспадары, якія не маюць уласных машын, карыстаюцца паслугамі СКРу.

**Э. Вайсковіч**

### ХТО БУДЗЕ АПРАЦОЎВАЦЬ ЗЯМЛЮ?

Вялікую ўвагу прысвячае Гайнаўская гміна загаспадарванню ўсіх земель, якія знаходзяцца на яе тэрыторыі і на якіх можна садзіць і сеяць. У бягучым годзе асаблівую ўвагу звернуць на дзяржаўны фонд зямлі. У плане — прыняць на скарб дзяржавы 115 гектараў ад 25 гаспадароў, якія ўжо не могуць самі весці гаспадарку.

У гэтым годзе вольную зямлю ПФЗ гміна разложыць наступным чынам: 20 га атрымае кааператыў сельскагаспадарчых гурткоў, 10 га — сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня, 150 га — індывідуальныя гаспадары.

Добра зрабіў начальнік гміны, што не даў зямлі з ПФЗ у гэтым годзе ПГРу ў Новаберазове, няхай яны найперш добра загаспадараць тую, якую маюць.

**Э. Вайсковіч**

## У КОЖЫНЕ

Вёска Кожына стаіць над рэчкай Локніцай. Ды ў маляўнічым месцы — вакол сенажаці і лес. Прыгожа тут вельмі летам. А да таго яшчэ мінулым летам па дарозе праз рэчку збудавалі прыгожы мост. Запрашаем на прагулку мастом праз рэчку.

**М. Кірылюк**

### БЯЗДОМНЫЯ САБАКІ

Я пабываў нядаўна ў Нараўцы, Альхоўцы і Масеве II. Усюды ўбачыў адну цікавую карціну, аб якой пастаянна гаворыць мясцовае насельніцтва — гэта групы сабак, якія валочацца па вуліцы. Дзеці баяцца выходзіць на вуліцу, бо ёсць сабакі небяспечныя. Можа міліцыя паможа папрывязваць сабак на ланцугі?

**А. З.**

### КАНЦЭРТ У ГМІНЕ

У Нараўцы пабываў са сваёй групай Януш Ляскоўскі. Ён даў два канцэрты ў адзін вечар. Мясцовае насельніцтва было задаволена гэтым візітам. Гмінны цэнтр культуры прадаваў білеты прадпрыемствам і індывідуальна. Найбольш апладысментаў сабрала песня „Каляровыя ярмаркі".

**А. З.**

### ГАСПАДЫНІ ПАРАКАЮЦЬ

У Бельску можна абыйсці ўсе спажывецкія крамы (і не толькі ў Бельску, але і ва ўсёй ваколіцы) і нідзе не купіш „зельнага перцу", які гаспадыні нашы вельмі любяць і якім ён кожны дзень патрэбны. Што здарылася на Лодзінскім прадпрыемстве „Гербаполь"? Нашы жыхары здаюць многа рознага зелля, а перцу няма. А без перцу, то і звычайны суп не смачны.

**Румі**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „РАЗВЕДКА ГАСПАДАРНАСЦІ", „Ніва" № 4 (1196) ад 28.I.79 г.**

**Адказвае: DYREKCJA REJONOWA KOLEI PAŃSTWOWYCH W BIAŁYMSTOKU, DZIAŁ HANDLOWO-PRZEWOZOWY.**

W odpowiedzi na krytyczną notatkę prasową zamieszczoną w nr 4/1196 z dnia 28 stycznia 1979 r., Dział Handlowo-Przewozowy Dyrekcji Rejonowej Kolei Państwowych informuje, jak niżej.

W przedmiotowej sprawie zostało przeprowadzone postępowanie wyjaśniające, które ustaliło, że przyczyną braku oświetlenia była awaria instalacji elektrycznej. Pomieszczenie poczekalni tego krytycznego dnia było opalane w godzinach rannych, z uwagi na temperaturę powietrza O°C nie zachodziła potrzeba ponownego palenia w piecu.

Przydzielenie pracownika do stałego nadzoru w godzinach popołudniowych pomieszczenia poczekalni nie jest możliwe, z uwagi na brak na ten cel etatów.

Podając powyższe do wiadomości Dział Handlowo-Przewozowy przeprasza czytelnika za pośrednictwem Redakcji za doznane przykrości w czasie podróży.

Naczelnik
w/z inż. Kuźma Dmitruk
Zastępca

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

На чыгуначнай станцыі ў Дуброве Беластоцкай, ускакваючы ў едучы поезд Беласток-Сувалкі, папаў пад колы вагона вучань з той жа мясцовасці. У бальніцы ён памёр.

На шашы Е-12 непадалёку ад мясцовасці Паева, гміна Тыкацін, Шкода-100 з'ехала з левы прыдарожны роў і ўдарыла ў дрэва. Шафёр, перавезены ў бальніцу ў Беласток, памёр.

